# Соль зямлі

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

Памяняліся беларускія вёскі на Сакольшчыне. Цяжка сказаць ці яны яшчэ існуюць, ці ўжо іх няма. Выхадцы, якія саромеюцца свайго паходжання і незацікаўленыя бацькаўшчынай, за марныя грошы аддалі іх каланізатарам, уводзячым сюды новыя светапогляды, законы, мову, культуру. Сляды тутэйшасці хутка знікаюць не ў траве ці бур'яне, але за стылізаванымі драўлянымі, прафесіянальна засцеражонымі віламі новых гаспадароў. Усё ж такі, калі добра пашукаць, можна яшчэ наткнуцца і на сапраўдную, жывую соль гэтай зямлі.



Цётцы Тафісі ў жыцці пашанцавала. Далёка не кожнаму ўдаецца ў някепскім здароўі дачакаць свайго дзевяностага дня нараджэння. Не ўсім таксама запісана цешыцца разумнымі дзяцьмі, унукамі і праўнукамі. Штодзень жыве яна ўспамінамі мінулага, часта згадваючы сваю маму — самага дарагога чалавека яе жыцця. Яе цяперашні мікракосмас абмежаваўся да ўласнага немалога панадворка з новай камфортнай хатай, пабудаванай і заселенай шматлікай сям'ёй наймалодшай дачкі. Усе яны жывуць там у згодзе і любові, не разбураемай нават прысутнымі тут дзвюма верамі. Тафіся заўсёды павучала сваіх дзяцей, каб перахрысціліся пераходзячы каля царквы ці касцёла. «Ісус Хрыстос цярпеў за ўсіх, а і ў Божай Мацеры ўсе роўныя», — напамінала яна.

Пра яўрэяў таксама кепскага слова не скажа, мабыць таму, што добра іх ведала. Яшчэ будучы дванаццацігадовай дзяўчынкай пайшла да іх на службу. За штомесячную зарплату і мяшчанскі дах над галавой пільнавала дзяцей, варыла ежу, прыбірала. Падлогу ў пяці пакоях, вялікім калідоры і кухні трэба было націраць да глянцу, каб як у люстры ў яе можна было паглядзецца і валасы зачасаць. Пані была добрая, глядзела і карміла маладую служанку. Як паявілася дзіця, то пан на ровары ў вёску за Тафісяй прыязджаў. Пані — дзевятнаццацігадовая дачка багатага купца нічога зрабіць не ўмела. Тафісі прыйшлося разабрацца і з сакрэтамі яўрэйскай кухні. Разумная дзяўчынка і з гэтым справілася. Аднойчы пан папрасіў яечню спячы. «На чым жа насмажыць: у тлушчы ці на алею? Ці гэта мясное ці малочнае?» думала дзяўчынка. За спечаныя на алею яйкі бацька пані назваў Тафісю *умніцай*.

Самым лепшым настаўнікам кемлівасці і розуму Тафісі аказалася ўласнае жыццё. Яе мама — Дамініка — рана выйшла замуж, уцякаючы з роднай хаты ад нядобрай браціхі. Падаючыся ў бежанства ў час першай сусветнай вайны, прадалі сваю хату людзям з непадалёкага Адэльска. З далёкага падарожжа вярталіся з куфрам поўным болю і бескарысных грошай. На месцы чакаў іх толькі «голы камень». Пасляваенная жыццё аказалася вельмі цяжкім выпрабаваннем. Бацька Тафісі здаўся якраз у гадавіну, з дакладнасцю мінуты, свайго вяртання на бацькаўшчыну. Астаўшымся, як гарох пры дарозе сіротам, хутка трэба было пазнаёміцца са смакам цвілога хлеба. А і ў школе бедным дзецям вецер заўсёды дзьмуў у вочы. Тады каб і найлепш вучыўся, больш як чатыры класы закончыць немагчыма было. Міжваенная дысцыпліна і стаўленне прыездных з далёкай Лодзі настаўнікаў было вельмі жорсткім. Аднойчы Тафіся з-за гульняў на зімовай коўзанцы спознілася ў школу на цэлых пятнаццаць мінут. У калідоры чакала яе ўжо драўляная, настаўніцкая паўмятроўка. Удар у правую руку быў настолькі моцным, што дзяўчынка аж прысела ад болю. Паявіўшаяся на руцэ пухліна ўвяла настаўніка ў сапраўдную заклапочанасць, тым больш што праз некалькі дзён меў паявіцца школьны інспектар. Гэты так і прысеўся з запытаннямі да дзяўчынкі, адзінай, якая не прымала ўдзелу ў экзаменацыйнай дыктоўцы. Задняя лаўкі шопатам маніла: «Скажы, скажы...». Усё ж такі Тафіся не выдала свайго кывадзёра. Яшчэ ў дзень прыкрага здарэння настаўнік пазваў у школу Тафісіну маму, аб'ясняючы, што любы данос да інспектара пазбавіць яго хлеба.

Правёўшы сем гадоў у вясковай чатырохгодцы, Тафіся занялася працай на сціплых маміных загончыках і наймалася ў багацейшых гаспадароў. Гэтыя часта дзяліліся са сваімі бяднейшымі суседзямі не толькі добрым словам, але і куском сала ці хлеба. «Цётаньку, гэта вам я прынесла», — з місай свежаніны звярталася да Дамінікі маладая Зінка, дачка вясковага багатыра.

Неўзабаве мясцовым прыйшлося дастасоўвацца да новай улады і парадкаў. Савецкія часы раскрылі перад беднай вясковай моладдзю новыя і нечаканыя перспектывы. Усе пацягнуліся на працу ў навакольныя калгасы. Тафісінай маме гэтыя перамены не былі па душы. Яна сказала сваёй дачцэ: «Як хочаш, то ідзі, рабі, но я ў тваім калгасе працаваць не буду». Але ж трэба было туды ісці, іншага выхаду не было. Самая лепшая зямля знаходзілася ў руках саветаў. Тафіся пачала актыўна карыстацца новымі магчымасцямі. Была адной з першых у вёсцы, якая запісалася на курсы для трактарыстаў. Вывезеных аж у Ваўкавыск курсантаў трактавалі вельмі добра. Гарадское жыццё аказалася надта вясёлым, у сталоўцы кармілі выдатна, на кватэру таксама нельга было наракаць, а і настаўнікі вялі сябе прыстойна. Вярнуўшыся на радзіму, Тафіся два гады ў чорных змазках калгасныя загоны арала. У канцы рашыла падаць паперы ў Бабруйск на легкавую машыну, але праз тыдзень прыйшлі немцы. Вайна захапіла Тафісю на лузе, пры трактары. Ледзь удалося ёй пазбегнуць варожай бамбёжкі. Дабраўшыся да вёскі, даведалася, што нямецкая разведка ўжо паспела захапіць дзесяць чалавек у якасці смяротных закладнікаў, у тым ліку яе дзевера. Прыйшла і чарга на Тафісю. Па нямецкім прыказе солтыс адправіў яе ў Адэльск. Там, пратрымаўшы два дні ў падвале як арыштанта, перавезлі яе ў калёнію савецкіх ваеннапалонных за Гроднам. Шэсць тыдняў Тафіся складала жаўнерскія штаны, шкарпэты і абутак на мясцовай фабрыцы. Каб пазбегнуць смерці, з матэрыялам на дзве спадніцы, прышытым у падшэўку свайго паліто, рашыла вяртацца дахаты. Яна ведала, што калі б па дарозе папалася ў нямецкія рукі, закончыла б у турме, а польскія ці ўкраінскія службоўцы пабілі б яе на смерць. Дваццаць тыдняў хавалася па роднай вёсцы, але солтыс усё раўно яе знайшоў і адправіў на гродзенскую тытунёвую фабрыку. Тафісю не трымалі там пад строгім наглядам, не забралі дакументаў. Адрабіўшы два тыдні спачатку на тытунёвым складзе, а потым на загоне, зноў надумалася ўцякаць. За дзень дабралася пехатою ў родную вёску. Слава Богу, вайна набліжалася ўжо да чаканага канца.

Тры гады пасля вызвалення Тафісю выдалі замуж. Паявіліся новыя выклікі лёсу. Бяда раздзяліла маладую сям'ю, выганяючы мужыка за хлебам у далёкі Шлёнск. Тафіся, як афіцэр на пасту, на працягу шаснаццаці гадоў на сваіх плячах падымала гаспадарку, выхоўвала пяцёра маленькіх дзяцей і будавала новую хату.

Гады мінаюць, а Тафіся надалей застаецца такой жа моцнай і працавітай. Кожны дзень дзякуе Богу Найвышэйшаму за дараванае жыццё, за гора і страх Божы.

...толькі ногі крыху баляць, але добра, што баляць, бо як бы я жыла...

# Гайнаўскія белліцэісткі на рэспубліканскай алімпіядзе

У днях 25-29 сакавіка бягучага года разам з настаўнікам беларускай мовы Янкам Карчэўскім мы ўдзельнічалі ў Рэспубліканскай алімпіядзе па беларускай мове і літаратуры, якая адбылася ў Брэсце.

У восем гадзін раніцы, калі ўсе ідуць у школу, мы накіраваліся ў падарожжа ў вышэйзгаданы старадаўні беларускі горад. Цэлая дарога прабягала хутка і ўжо перад поўднем мы былі на месцы. Нас пасялілі ў інтэрнат абласнога ліцэя імя Машэрава, які знаходзіцца ў цэнтры горада. Пасля абеду і знаёмства з нашымі беларускімі апекунамі — Вікай і Юрам, мы падаліся на ўрачыстае адкрыццё алімпіяды ў Брэсцкі дзяржаўны абласны цэнтр маладзёжнай творчасці. Найперш усіх удзельнікаў горача прывіталі, а затым пачаўся канцэрт. На сцэне выступілі танцавальныя і вакальныя калектывы, якія захапілі нас сваім майстэрствам. Поўныя ўражанняў мы вярнуліся на вячэру, а затым пашпацыравалі крыху па ваколіцы. Вечарам пазнаёміліся мы з мілымі дзяўчатамі з Літвы — Лаўрай і Мірынай.

Наступнага дня, у аўторак, нам цяжка было падняцца, таму што была гэта пятая гадзіна раніцы паводле польскага часу. У сталовай нас прыемна абслугоўвалі «афіцыянты», якія праўдападобна з'яўляюцца вучнямі мясцовага ліцэя. У дзевяць гадзін пачаўся першы этап алімпіяды. Нашым заданнем было напісаць водгук на мастацкі твор Алеся Разанава «Гліна». Пасля чатырох гадзін змагання з сачыненнем, усе алімпійцы падаліся на васьмі аўтобусах, у суправаджэнні міліцыі, на аглядную экскурсію па горадзе Брэсце. Ад экскурсавода мы шмат даведаліся пра ўзнікненне і гісторыю абласнога цэнтра.

У сераду адбыўся II тур алімпіяды — комплексная работа, калі трэба было рашаць даволі складаныя заданні па мове і літаратуры. Разам з літоўскімі сяброўкамі мы сцвердзілі, што алімпіяда на Беларусі намнога цяжэйшая, чым у нашых краінах.

У рамках культурнай праграмы мы адбылі аглядную экскурсію па Брэсцкай крэпасці, а таксама наведалі Мастацкі музей. Вечарам мы адпачывалі, слухаючы беларускае радыё «Брэст».

Чацвер быў апошнім днём алімпійскіх змаганняў, а менавіта — вуснае выказванне. Перад камісіяй мы расказвалі на тэмы, звязаныя з нацыянальнасцю, мовай і айчынай. Задаволеныя сваімі адказамі, пасля абеду мы наведалі Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. С. Пушкіна. Затым мы гулялі па горадзе, рабілі пакупкі, фатаграфавалі.

Пятніца была апошнім днём нашага побыту на Беларусі. У нас урачыстае закрыццё рэспубліканскай алімпіяды. Найлепшыя ўдзельнікі атрымалі дыпломы трэцяй, другой і першай ступені, якія дадуць пропуск у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Нашую дэлегацыю таксама надзялілі падарункамі. Задаволеныя — мы падаліся дахаты. Аднак гэты тыдзень доўгі час будзе ў нашых думках, а новыя досведы і сябры астануцца нам назаўсёды.

**Кацярына БАЛТРАМЮК**
**Паўліна БОШКА**
**Мартына САКАЛОЎСКАЯ**
**Гайнаўскі белліцэй**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі





# Школьны і сямейны поспех!

— Цяпер я магу сказаць адно: больш люблю літаратуру як граматыку. І ўжо лепш чытаю, — кажа Адам Сцепанюк, вучань пятага „ц" класа бельскай „тройкі", лаўрэат прадметнага конкурсу па беларускай мове. З яго класа аж чатыры асобы заваявала гэтае прэстыжнае званне па роднай мове.

— Якое гэта пачуццё, — пытаем у хлапца, — апынуцца сярод найлепшых вучняў у ваяводстве?

— Я вельмі цешуся што мне ўдалося, — кажа ён.

Поспех у навукы не бярэцца з паветра. Каб стаць лаўрэатам, Адам вызубрыў граматыку, рашаў шмат практыкаванняў, чытаў многа літаратуры. Пасля дадатковых занняткаў у школе працаваў у хаце з мамай. Вечарам сядалі ля стала і пані Людміла правярала яго задачы.

— Здаецца, у вашай хаце ёсць ужо адна лаўрэатка па беларускай мове? — пытаем.

— Так, гэта мая старэйшая сястра Анджаліка!

— Сёння вялікае свята ў нашай сям'і, — кажа пра свой поспех Марлена Іванюк, сяброўка Адама з пятага „ц". Марлена таксама з сантыментам успамінае час падрыхтоўкі. Гэта вартасны, хаця цяжкі, час.

— Пасля школы мы былі вымушаны прачытаць апавяданні, казкі, рашаць задачы. Гэта многа самастойнай працы. Нам вельмі добра працавалася з нашай настаўніцай спадарыняй Бабулевіч. Пасля ў хаце дапамагала мая мама. Таму мой поспех важны для нашай сям'і, асабліва для мамы.

— А як завуць тваю маму?

— Яе завуць Малгажата, — імя мамы пяцікласніца вымаўляе з пяшчотай.

— А мая мама завецца Аня і яна таксама ведае беларускую мову, — дадае сяброўка з „тройкі" Уршуля Амбражэвіч (з пятага „а" класа). На яе поспех таксама мела ўплыў мама, якая заахвочвала і дапамагала вучыцца да конкурсу.

— Я першы раз стала лаўрэаткай, — адзначае Уля, — таму радасць у нашай сям'і неўтаймаваная.

У час урачыстага падвядзення вынікаў мы пазнаёміліся таксама з вучнямі гайнаўскай „шасцёркі" — Уршуляй Падгаецкай, Радкам Саковічам, Мартынай Герасімчук і Магдалінай Новік. Нашыя сябры былі ўзрушаны і акрыленыя сваім поспехам. Яны таксама кіравалі словы падзякі настаўніцы і мамам. (Цікава, чаму ніхто не сказаў пра бацькў?!)

— Я вельмі люблю ўсе конкурсы па беларускай мове, — кажа разумнічка Уля. — Вось прыеду дахаты і буду рыхтавацца да „Роднага слова"!

ЗОРКА

# Перажываю за ўсіх вучняў!

Інтэрв'ю з настаўніцай **Міраславай МАРКЕВІЧ**, старшынёй камісіі Прадметнага конкурсу па беларускай мове для пачатковых школ.

ЗОРКА: — *Пані Міраслава, Ваша асоба, гэта, так сказаць, ужо інстытуцыя...*

Міраслава МАРКЕВІЧ: — У конкурсе працую ад пачатку, ды апошнія пятнаццаць гадоў — беспярэрыўна...

— *Чым адрозніваецца гэты выпуск конкурсу ад папярэдніх?*

— Гэты конкурс быў вельмі даступны вучням. Тэст быў вельмі добра зроблены, і ён быў дапасаваны да магчымасцей. А праграма ў нас не мяняецца.

— *Ці для Вас, настаўніцы беларускай мовы, такі конкурс — гэта штуршок да лепшай, больш самастойнай працы? Ці дзякуючы конкурсу вучні больш ангажаваныя?*

— Конкурс па беларускай мове вельмі патрэбны. Дзеці вельмі ахвотна прыступаюць да конкурсу і гэта абазначае многа дадатковай працы, дзякуючы якой яны пазнаюць сваю гісторыю, лепш ведаюць мову. У хаце рэдка ўжо дзе гавораць па-свойму, а часта, калі ідзе падрыхтоўка да конкурсу, дзеці размаўляюць з бацькамі на беларускія тэмы, часта разам працуюць. І разам усведамляюць, што беларуская мова для іх не чужая, а родная.

— *І прыгожая?*

— І прыгожая!

— *Што для Вас асабіста значыць конкурс па беларускай мове?*

— Напэўна гэта вялікі прэстыж. Я магу працаваць і з настаўнікамі, і з вучнямі. Вельмі перажываю, каб нашых лаўрэатаў было як найбольш. Бо гэта наш агульны беларускі поспех. Усіх: дзяцей, настаўнікаў і цэлых сем'яў.

— *І таксама нас. Дзякуем за размову!*

— Дзякуем.

# Нам няма чаго саромецца!

**Размова з Яўгеніяй ВАСІЛЮК — дырэктаркай Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы імя Яраслава Касцыцэвіча ў Бельску-Падляшскім, якая па выніках прадметных конкурсаў у катэгорыі падставовых школ апынулася на чацвёртым месцы ў Падляшскім ваяводстве.**

**„Зорка":** — *Колькі ў вас лаўрэатаў і па якіх прадметах?*

**Яўгенія Васілюк:** — Разам у нас 22 лаўрэаты, з чаго 17 — гэта лаўрэаты па беларускай мове. Маем трох лаўрэатаў па рускай мове, аднаго па польскай і аднаго па матэматыцы. Апрача іх, у нас яшчэ чатырох фіналістаў.

— *Якія ўзнагароды чакаюць дзяцей?*

— У нас ёсць патройны лаўрэат, вучаніца Бручко — яна лаўрэатка па беларускай і рускай мовах ды матэматыцы. Ёсць таксама падвойная лаўрэатка, вучаніца Ваўранюк, яна лаўрэатка па беларускай і польскай мовах. Яны атрымаюць стыпендыю дырэктара школы, таксама маюць шанц атрымаць стыпендыю бурмістра горада. Усе лаўрэаты будуць мець шасцёркі па сваіх прадметах на пасведчанні, а лаўрэаты па польскай мове і па матэматыцы будуць звольнены з экзамену на канец шостага класа.

— *Здаецца, яшчэ такога не было, — у вас аж 17 лаўрэатаў па беларускай мове! Выглядае так, што прэстыж у ваяводстве маем дзякуючы роднай мове!*

— Ну, так. Аднак не ўсе ў Бельску вывучаюць беларускую мову. Гэта паказвае, што беларуская мова — наш козыр, а не перашкода. Што нам няма чаго саромецца.

— *Поспех у прадметным конкурсе гэта талент дзяцей плюс вялікая праца настаўнікаў. Назавіце іх прозвішчы...*

— Гэта настаўнікі: Яраслаў Падолец, Валянціна Бабулевіч, Андрэй Мароз, Марыюш Баляно, Лідзія Мамотка, Софія Сачко-Каролька. Тут трэба памятаць аб вялікай ролі бацькоў, якія самі прывозілі дзяцей на дадатковыя заняткі, у зімовы час, калі кароткі дзень і цяжка з усім справіцца.

— *А якіх вынікаў спадзяецеся ў гімназіі?*

— Думаю, што не будзе горш як у падставовай школе, але пра гэта пагаворым, калі сустрэнемся ўжо ў час падвядзення вынікаў.

— *Дзякуем за размову і файны падарак над 25 Сакавіка!*

— Як кожны год, на 25 Сакавіка нашы настаўнікі падрыхтавалі з вучнямі святочную лінейку.


Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Гімназісткі з Нараўкі ў кашульках „Нівы”

# Музыка з кайфам

## PAWAга, развага і поспех

Можна любіць, можна не любіць, але калі гурт, які здабывае прызнанне на „Басовішчы” і далей толькі пашырае круг зацікаўленых, менеджараў, фестываляў — гэта добра сведчыць пра фестываль. Не ад учора гаворыцца, што „Басовішча” ў крызісе, тым лепш, што сёння яно стварае пункт выхаду для разважанняў пра поспехі, а канкрэтна пра поспехі гурту „PAWA”.

Пасля мінулагодняга паспяховага выступу ў Борыку (дзе паставанна праводзіцца фестываль „Басовішча”) у студзені гурт запрасілі на беластоцкі фінал Вялікага аркестра святочнай дапамогі (WOŚP). Выступілі таксама ў іншых суседніх краінах ды рыхтавалі свой другі альбом. А зараз прадстаўляюць альбом, які атрымаў загаловак „Cristatus”. Разам з новым дыскам прыйшла відавочная змена і ўпэўненасць. Самі музыкі гавораць, што працавалі над альбомам як адзін арганізм і гэта безумоўна прынясло вынік. Яшчэ ў другой палове года пісалі пра сябе: „PAWA (Niko_S feat. Testamentum terrae)”, што шмат гаварыла пра карані праекта і яго музычны характар. „PAWA” гэта адзін з галоўных гуртоў у Беларусі, якія займаюцца сярэднявечнай культурнай спадчынай сваёй краіны. Адметнасць гурту ў тым, што прапануе сярэднявечную дыскатэку пад назвай „ЭТНАТЭКА”. Не было гэта складанае, бо музыка згадваных часоў стваралася перш за ўсё да танца і каб уздымаць вояў. Яснюткай ідэяй нашых герояў было дабавіць рытмаў і ўвесці на танцавальныя пляцоўкі, што ўжо ўдалося, бо новы 2013 год сустракалі ў Беларусі між іншым пад музыку гурту „PAWA”. Тады да музыкаў „Testamentum terrae” далучыўся электроншчык і пачалася „PAWA”. Зараз напэўна спелая, дасведчаная, цікавейшая.

Можна любіць, можна не любіць, але заўсёды варта падтрымліваць артыстаў, якія ведаюць да чаго імкнуцца, ствараюць тое, што ім блізкае ды ведаюць, як прапанаваць тое, што некаторым можа падавацца зусім неактуальным і састарэлым. Калі ёсць упэўненасць, ёсць адчуванне, што яны проста вартасныя. Як у выпадку кожнага чалавека.

i_basovka@o2.pl

# Конкурс пра вясну (15)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам вясны. Адказы, найлепш па электроннай пошце, дашліце да канца красавіка. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**1. Хто з’яўляецца бацькам літаратурнага аб’яднання „Белавежа”, якое сёлета адзначае 55-годдзе існавання?**
а) Сакрат Яновіч,
б) Георгій Валкавыцкі,
в) Алесь Барскі.

**2. Хто з „белавежцаў” — аўтар займальнага рамана пра дух пушчы „Белая вязь”?**
а) Алена Анішэўская,
б) Міхась Шаховіч,
в) Георгій Валкавыцкі.

**3. Назавіце першага рэдактара „Нівы”, які кіраваў нашай газетай аж 32 гады.**
а) Георгій Валкавыцкі,
б) Яўген Мірановіч,
в) Уладзімір Паўлючук.

**Рашэнне конкурсу № 11 (13):** 1 — Клаўдзій Дуж-Душэўскі (а); 2 — з часоў ВКЛ (б); 3 — Язэп Варонка (б).

Узнагароды, **„Смяшынкі” Віктара Шведа**, выйгралі **Мікалай Варанчук** з Арэшкава і **Наталля Бірыцкая** з Нараўкі. Віншуем!

**ЗОРКА**

Анна БЯЛЯЎСКАЯ
(Нараўка)

## Ікона

Вісіць у куіне ікона
І марыць,
Марыць ..
Аб тым,
Каб пабачыць тое, што было калісь.

Каб зноў пабачыць сям’ю пры жніве,
Як працуюць, цешацца, як смяюцца
А яна ахоўвае іх.

І ў яе вочы малая Гандзя заглядае
І так з ёю размаўляе:
„Дай нам, каб не было няшчасця
І каб здароўе было,
А мы да цябе будзем маліцца”.
Прысягалі ёй усе не так даўно.

Вісіць у куіне ікона —
Пустэча, пустэча вакол,
Не чуваць ужо малітвы, ні смеху,
Ні другіх галасоў.

...Ці ж усе забылі, што гаварылі?

Наталля МАРЧУК
(Нараўка)

## Цішыня

Цяпер усе сціхлі,
Толькі вее вецер.
Яны спяць
І мараць ...
Аб розных краінах.
Думаюць...
Каб там жыць.
Але, калі ўстаюць,
Чар знікае,
Усё па-старому.
Той сам дом,
Тыя самы рэчы,
Тая самая праца,
Толькі мары будуць новыя.

# Польска-беларуская крыжаванка № 15

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 11:**
Сонца, Нарва, Ас, іл, сыр, знак, грак, гром, за, братанак, род, там, танга, рыса. Нарцыс, пас, брат, гром, вінаград, сала, рот, ты, крама, Ас, нос, Ніна, акр, трактар.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Патрыцыя Бядрыцкая, Аня Пянькоўская, Алек Чарнецкі, Наталля Марчук** з Нараўкі, **Магдалена Хвашчэўская** з Бельска-Падляшскага, **Якуб Цішук, Клаўдзія Сосна, Оля Пугацэвіч, Міхась Бабік** з ПШ № 4 у Беластоку, **Малгажата Галёнка** з Арэшкава, **Мартына Леанюк, Інэз Дмітрук** з Орлі. Віншуем!



Не хочацца мне ўжо больш марудзіць пра спад ліку пасажыраў у аўтобусах, што ездзяць цераз нашы тутэйшыя вёскі. Але гэты спад метка адлюстроўвае дэмаграфічны працэс гэтых вёсак абязлюдзення і старэння; на вёсках асталіся людзі, якім нават цяжка ўскарабкацца на ўсходкі тыповага пэкаэсаўскага аўтобуса. На ранішнім аўтобусе з Саколкі ў Сідру склаў я палову пасажыраў і пакінуў яго апошнім у Залессі.

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# За Залессем


Касцёл у Залессі

Залессе, як падказваюць гісторыкі, паводле колішніх яго ўласнікаў мела стаць горадам. На гэта паказвае і планіроўка мясцовасці з рыначнай плошчай у цэнтры і цэнтрабежнымі ад яе вуліцамі. З паўночнага боку рынку беласценны касцёл з дзвюма вежамі. Партал Беластоцкай архідыяцэзіі: „Zanim powstał kościół parafialny w Zalesiu już wcześniej miał istnieć kościół drewniany, który został zniszczony przez pożar. Murowany kościół zbudował fundator, Hieronim Wołłowicz w latach 1604-1623. Prawdopodobnie był on pod wezwaniem Wniebowzięcia NMP. Na początku XIX w. w źródłach figuruje jednak tytuł Przemienienia Pańskiego. Po remontach kościoła i jego odnowieniu w 1858 r. pojawia się tytuł Matki Bożej Pocieszenia". Чаму касцёл вандраваў па розных заступніцтвах, партал не тлумачыць, аднак усе гэтыя парафіяльныя святы выпадалі ў жніўні: пятнаццатага, шостага і дваццаць трэцяга адпаведна.

У Залессі дзве некраполіі: новая з боку Меляшкоўцаў і старая зараз за касцёлам. І паміж тымі могілкамі адчуваецца нейкая асаблівая розніца: новыя здаюцца патыхаць яшчэ спешкай беласветнага жыцця, затое ж старыя нясуць нейкае суцішэнне, *упакой*, нейкі рэфлексіўны намёк, задуму, быццам у вершы:

*Хачу разгадаць я, якія дарожкі*
*Прыдзецца ў далейшым жыцьці мне прайсьці?*
*Ці будуць мо ліцца па іх мае сьлёзкі,*
*Ці будуць мо краскі на іх мне цьвісьці.*
*Ці хопіць мне сілы змагацца з віхурай,*
*Ламаць будаваны праз злыдняў мне плот?*
*Ці мо не змагу я там цемры панурай,*
*Жыцьця майго сьцежкі праpвецца мо кнот?...*

Гэтыя радкі напісаў ураджэнец Залесся Уладыслаў Казлоўскі, беларускі грамадска-палітычны дзеяч, паэт, публіцыст, журналіст, выдавец, як пісаў пра яго Сяргей Чыгрын. „У 1916 годзе наш зямляк паступае ў Віленскую каталіцкую духоўную семінарыю. А калі заснавалася ў Вільні беларуская вайсковая арганізацыя, пакідае семінарыю з мэтай паступіць у беларускае нацыянальнае войска. У маі 1920 года ён высылаецца ў Варшаўскую школу падхарунжых. Праз год, у сувязі з ліквідацыяй беларускіх аддзелаў, пераводзіцца ў польскае войска як кадравы афіцэр. Будучы паручнікам чыннай службы Уладыслаў Казлоўскі не парывае сувязі з беларускім нацыянальным рухам. А ў 1930 годзе звальняецца са службы і пераязджае ў Вільню. Тут ён поўнасцю аддае сябе творчай працы і палітыцы. Патрыятычная паэзія і проза беларускага літаратара з Беласточчыны — гэта заклік да незалежнасці і адраджэння Беларусі". Вось прыклад такога заклiку:

*Ці бачыў калі хто, жыцьцё без змаганьня?*
*Ці жаласьць ў прыродзе знашоў хто ў каго?*
*Дужэйшы слабога бярэ без чаканьня,*
*Ніштожыць і мае карысьць із яго.*
*Ліс зайца хапае, воўк ліса задушыць,*
*Шчупак другу рыбу лакома лыкне;*
*Дуб слабшае дрэва сабою заглушыць,*
*Каршун за нявіннай тэй птушкай шмыгне.*
*Нявінная птушка лятае шчасьліва*
*Й бяз жаласьці мушкі хапае, жарэ*
*І ўсё наагул, калі ёсьць нярухліва*
*Бязжаласна згіне ў прыродзе, памрэ.*
*А мо чалавеку прырода ёсьць накша?*
*Мо людзі спагаду тут маюць ў каго?*
*Мо сьлёзы і беды зварушаць аднача*
*Шчасьлівейшых, вольных, хаця б аднаго?...*
*Ня будзе палёгкі, каб плакаць хоць векі,*
*Шукаючы волі і шчасьця ў жальбе —*
*Нічога ня знойдзем і будзем мець зьдзекі,*
*Бо шчасьце і воля жывуць ў барацьбе.*

Беластоцкая „Новая дарога" ад 12 снежня 1943 года пісала: „Дня 13 лістапада 1943 года ў Менску, пры выкананьні сваіх нацыянальных абавязкаў трагічна загінуў ад рук нікчэмных бальшавіцкіх бандытаў рэдактар „Беларускае Газэты" Уладыстаў Казлоўскі, народжаны ў 1896 годзе ў вёсцы Залесьсе Сакольскага павету. Паховіны адбыліся дня 22 лістапада на Кальварыйскіх каталіцкіх могілках у Менску".

Яшчэ прыклад ягонай асабістай лірыкі:

*Ці я Цябе люблю, пытай тых ночак цёмных,*
*Што ў мроях аб Табе да сну мяне кладуць,*
*Калышуць так мяне, нясуць у край таёмны,*
*Пасьля мне пра Цябе ўсе сны мае снуюць.*

Залессе зараз нічым у агульнасці не розніцца ад іншых вёсак нашай Усходняй сцяны. Калісь у Залессі была школа, аднак яна закрыта ўжо даўнодаўно. Насупраць касцёла, з другога боку рынку працуе крама, аднак рух у ёй мізэрны. Ды і касцёл здаецца быць не надта людным. Галоўны ўваход паказвае выгляд, што ім здаўна ніхто не карыстаецца, а да бакавога ўваходу пратаптаныя ў снезе нямногія сляды. Мо гэтая сітуацыя, калі ў храме мала людскога духу, і навяла на адказных за апеку над ім думку, каб адмыслова забяспечыць будынак ад сырасці. Калі ў агульнасці сцёкавыя трубы пры сценах будынкаў канчаюцца каля саміх фундаментаў, выхад такіх жа труб пры залескім касцёле адведзены за тры-чатыры метры ад падставы муроў. Побач касцёла драўляная кампазіцыя з крыху сюррэалістычным возам, у якога ролю аднаго кола выконвае жарнавы камень. Перад возам драўляная фігура задуманага свёнтка, кшталтам падобная на славутую скульптуру Агюста Радэна; у Залессі над галавой *Мысліцеля* бляшаны дашок. Пасярэдзіне рынку мемарыяльны камень маршалку Юзафу Пілсудскаму, пастаўлены, мабыць пры нагодзе парафіяльнага свята, у жніўні 2000 года. Пад паветкай аўтобуснага прыпынка, што ў рынку, красуецца той самы малочны бітон у якасці сметніка, пра які я быў пісаў у „Ніве" ад 11 лістапада 2007 года („Лёс металічнага гулякі"). Па вуліцы ў бок Бернікаў будынак пункту прыёму малака, на якім даўно счэзлі сляды людской дзейнасці... Словам — у Залессі не толькі кліматычная, але і грамадская зіма. Грамадскай зімы Уладыслаў Казлоўскі ў ягоныя маладыя гады не спадзяваўся, але пра такую, якая сёлета празмерна доўжыцца, пісаў:

*А прыйдзе вось зіма: дае свае загады,*
*Грызе марозамі, мяцеліцай плюе.*
*Здавалася б ужо няма ніякай рады —*
*Надоўга ўсіх яна ў аковы закуе.*
*А бачыш сонейка вясьнянае прыгрэе,*
*Загляне соладка зіме у злосны твар.*
*Зіма як не злуе, як з ветрам ня дурэе,*
*А ўсёткі пойдзе проч — вясна ўжо гаспадар.*

Дарога з Залесся ў Бернікі пралягае пасярод маладога лесу. Перад Бернікамі на захаваным ад лесу ўчастку красуецца новая ландшафтная архітэктура. Менавіта выкапана там абшырная сажалка, зямля з-пад якой паслужыла матэрыялам для сфармавання ўзгорка, на якім уласнік узвёў невялікі палац. Узгорак і азярцо — краявід у агульнасці створаны такі, які характэрны карцінам парадку *jeleń na rykowisku*. Ландшафтная кампазіцыя яшчэ не завершана, яшчэ ў творчым разгары і, магчыма, над новым возерам паявяцца, як на шматлікіх нашых вясковых панадворках і гарадскіх пляцах, фігуры зубра, ільва, пінгвіна і іншых насельнікаў Ноевага каўчэга. Наш жа народ дбае таксама пра захаванне прысутнасці навакольнага прыроднага асяроддзя, не зважаючы на законы Дарвіна, метка адлюстраваныя Уладыславам Казлоўскім...


Вуліца ў Берніках

Менш прыцягальны выгляд саміх Бернікаў. Хаты там захоўваюць свой першапачатковы выгляд, а іх насельнікі, здаецца звонку, не рупяцца супрацьстаяць наступу прыроды, якая ўсімі сваімі стыхіямі наводзіць свае папраўкі ў антрапагенныя творы; вёска з вуліцы выглядае як нейкая дажывальня, а поле і пашы за вёскай зарастаюць пустазеллем. Але, магчыма, гэта памылковае ўражанне...

Калі я выйшаў за Бернікі ў напрамку Сынкоўцаў, на адным крыху аддаленым ад вуліцы панадворку пабачыў траіх мужчын у сіле веку, а калі мінуў далейшы прыдарожны крыж з лацінскім надпісам „Spasiciel nasz spasi i sochrani nas od wsiakaho zła 1939 r.", пачуў са згаданага панадворка роспачны свінскі квік. Такі свінскі квік у нашых умовах, так як спеў пеўня на досвітку прадвяшчае набліжэнне працоўнага дня, прадвяшчае набліжэнне працоўнай пары года — вясны. Гэта свайго роду герольд, які паведамляе пра набліжэнне канца посту, заклікаючы да саліднага падсілкавання перад працаёмкім земляробчым сезонам...

Сяргей ЧЫГРЫН

# Беларуская Беласточчына на старонках кнігі Зоські Верас „Я помню ўсё”

У 2005 годзе Міхась Скобла падрыхтаваў і выдаў эпісталярную спадчыну Ларысы Геніюш „Каб вы ведалі”. Сёлета з друку ў Вроцлаве выйшаў вялікі том успамінаў і пісем Зоські Верас „Я помню ўсё”. Міхась Скобла таксама ўкладаў, рыхтаваў тэксты, пісаў прадмову і каментар да гэтай кнігі. Вельмі ўдалыя назвы падабраў укладальнік да гэтых выданняў. У першай Ларыса Геніюш у сваіх лістах распавядала праўду пра тое, што адбывалася ў Беларусі ў XX стагоддзі, расказала шчыра, бо паэтка не магла маўчаць, хоць для сваіх успамінаў вымушана была абраць самы непублічны жанр — лістоўны. У лістах Ларысы Геніюш — праўда, каб мы яе ведалі заўсёды.

У пісьмах Зоські Верас — каб мы помнілі пра тых, хто аддаў усе свае сілы і жыццё дзеля Бацькаўшчыны, пра тых, хто сапраўды быў патрыётам, а не толькі беларусам. Выданне ўспамінаў і пісем Зоські Верас прымеркавана да яе 120-годдзя з дня нараджэння, з якіх амаль сто гадоў беларуская грамадская дзеячка пражыла і бачыла на сваім вяку шмат чаго і шмат каго. У кнізе апублікавана 386 лістоў Зоські Верас, з іх — 367 надрукаваны ўпершыню.

Калі грунтоўна даследаваць кнігу „Я помню ўсё”, то гэтае даследаванне можна падзяліць на некалькі раздзелаў: „Беларуская інтэлігенцыя на старонках кнігі”, „Беларуская Вільня на старонках кнігі”, „Слонімшчына на старонках кнігі” і г.д. Я вырашыў пагартаць старонкі беларускай Беласточчыны кнігі Зоські Верас „Я помню ўсё”. Дужа яна шырока паказана ва ўспамінах і лістах Людвікі Сівіцкай (Войцік). І шмат новага, цікавага можна даведацца з таго, што нам у спадчыну пакінула наша грамадская дзяячка.

Кніга Зоські Верас пачынаецца з аўтабіяграфіі аўтаркі і ўспамінаў пра старое Гродна, Гродзенскі гурток беларускай моладзі, пра курсы ў Варшаве, пра Таварыства помачы ахвярам Першай сусветнай вайны, пра Менск, Вільню, пра таварыства „Пчала” і часопіс „Беларуская борць” і вядома ж пра Альхоўнікі: „Можна ехаць дахаты ў Сакольшчыну, у фальварак майго дзеда Альхоўнікі, дзе чакала мяне маці... Я ў Альхоўніках займалася агародамі і была ў дзеда практыкантам-пчаляром. Часам спатыкалася з некаторымі сябрамі ГГБМ, напрыклад, з А. Зенюком, Я. Лявіцкім (бацькам) і Марысяй Бобрык...”. ГГБМ — гэта Гродзенскі гурток беларускай моладзі. Пра яго сяброў таксама шчыра прыгадвае Зоська Верас. Асабліва цёпла прыгадвае пра Адама Бычкоўскага, які быў адным з арганізатараў і першым старшынёй ГГБМ. Паходзіў Адам Бычкоўскі з фальварка Талочкі Сакольскага павета. Гэта цяпер з пісем Зоські Верас я даведаўся, што Бычкоўскі быў жанаты, і гэта была яго памылка, з грузінкай, але па духу рускай шавіністкай, якая не дапускала ў хату нікога з беларусаў, прычым і дачку гэтак навучыла. Адам за ўсё гэта перажываў, хаця сам, калі жыў і працаваў у Варшаве, моцна кантактаваў з беларусамі, дапамагаў ім, асабліва тады, калі патрэбны былі юрыдычныя кансультацыі. А свой архіў перадаў на захаванне Пятру Ластаўку. У пісьме да Аляксея Пяткевіча Зоська Верас 18 лістапада 1971 года піша: „Сягодня мінула 34 гады ад дня смерці першага старшыні Гарадзенскага гуртка беларускай моладзі Адама Бычкоўскага. Ён быў і адным з арганізатараў гуртка. Маю яго лісты і маю артыкул Пятра Ластаўкі „Адвакат Адам Бычкоўскі” — да 30-годдзя яго смерці, напісаны ў 1967 годзе. П. Ластаўка меў надзею, што гэты артыкул будзе надрукаваны ў беластоцкай „Ніве”. Але гэта была толькі абяцанка — не надрукавалі. У гэтым артыкуле гаворыцца аб працы адваката А. Бычкоўскага ў Варшаве ў апошнія гады перад смерцю...”.






Гродзенскі гурток беларускай моладзі. У першым шэрагу Зыгмунт Абрамовіч, Казімір Калышка, Адам Бычкоўскі. У другім шэрагу: Алена Шэгідзевіч, Людвіка Сівіцкая, ксёндз Францішак Грынкевіч, Ганна Салянка, Станіслава Кунда. У трэцім шэрагу: Вінцусь Семяновіч, Марыя Салянка, Станіслаў Більмін, Францішак Эйсмант, Эдмунд Кунда, Павел Аляксюк, Часлаў Чарноцкі, Станіслаў Раманоўскі. 1910 год.

Папракае Зоська Верас „Ніву” і ў іншых лістах да гарадзенскіх літаратараў. У прыватнасці Міколу Гайдука — карэспандэнта „Нівы” ў пісьме да Адама Мальдзіса (5 ліпеня 1979 года): „Не ведаю, ці Вы помніце артыкул у беластоцкай „Ніве”, змешчаны на юбілей (85 гадоў?) Р. Шырмы. Там былі такія радкі: „Р. Шырме запрапанавалі працу ў Віленскай Беларускай гімназіі... Пачаў працаваць у 1926 г. Але працаваў нядоўга, бо праз два гады гімназію закрылі” (гэта, мусі, значыць — зачынілі). Вынік — Віленская Беларуская гімназія ў 1928 годзе перастала існаваць. Я адразу напісала ў рэдакцыю „Нівы”: „Ці гэта злая воля, ці абыякавасць аўтара артыкула да гістарычнай праўды?”. Рэдактар мне нічога не адказаў, але паказаў ліст мой аўтару — М. Гайдуку... Толькі цяпер, 31 красавіка, як М. Гайдук заехаў да мяне, справа выяснілася: вестка аб зачыненні Віленскай Беларускай гімназіі ў 1928 годзе ўзята з успамінаў Р. Шырмы... М. Гайдук на мяне не пакрыўдзіўся. Наадварот, сцвярджаючы, што я яго „вылаяла”, сказаў, што гэта добра! Каб ізноў не скараціць існаванне ВБГ аж на 16 гадоў... У артыкуле — яшчэ паўбяды, але ў кніжцы было б недаравальна”.

У пісьмах Зоські Верас дастаецца часам і „Беларускаму календару”. Але ў лісце да Дануты Бічэль ад 16 студзеня 1981 года яна паведамляе: „А ці даходзіць у Гародню беластоцкі „Беларускі каляндар”? У сёлетнім надрукавалі нарэшце мае ўспаміны аб Гарадзенскім гуртку беларускай моладзі”.

Сябры Гарадзенскага гуртка беларускай моладзі прысутнічаюць амаль ва ўсіх пісьмах Зоські Верас. Пра іх аўтарка піша шчыра, цёпла, з настальгіяй успамінае светлы час у Гародні, пра тыя мерапрыемствы, якія арганізоўвалі беларускія хлопцы і дзяўчаты гуртка, пра іх сустрэчы і вандроўкі. Найбольш у гуртку было моладзі з Сакольшчыны. А гэта Язэп Лявіцкі, Адольф Зянюк, Янка Ляўковіч, Уладыслаў Чаржынскі, Янка Чарапук, Марыся Бобрык, Францішак Эйсмант, Павел Аляксюк, Марыя Салянка і многія іншыя. Па-рознаму склаўся іх лёс. Язэп Лявіцкі загінуў падчас Першай сусветнай вайны. Адольф Зянюк памёр ва ўзросце 44 гадоў у Вільні. Ён рэдагаваў некалі „Студэнцкую думку”. Уладыслаў Чаржынскі памёр у Казані ў ссылцы, Янка Чарапук у Чыкага і г.д. У пісьме да Аляксея Пяткевіча ад 16 студзеня 1972 года Зоська Верас паведамляе: „Я памаленьку збіраю звесткі аб некаторых сябрах гуртка. Пытаюся ў пляменніка кс. Грынкевіча. Гэты пляменнік — Казімір Грынкевіч — добры беларус, жыве ў Новым Двары. Я з ім перапісваюся і аб некаторых гуртковцах у яго магу даведацца. Аб Марыі Бобрык не пішу, бо маю шмат яе лістоў... Лабенец Хвэлька — з Новага Двара, аб ім распытаюся К. Грынкевіча. Ведаю адно, што ў 1918 годзе выехаў у Савецкі Саюз. Спаткала я яго ў Менску на вакзале... Пранук Эйсмант (паміж іншым, хрышчоны сын маёй бабкі — па матцы) — сын леснікa ці аб'ездчыка. Жылі ў вёсцы Кусцінцы Сакольскага павета. Скончыў гімназію ў Гродне. Пасля я яго страціла з вачэй...”.

Родную Сакольшчыну Зоська Верас памятала заўсёды. У пісьме да кампазітара Яўгена Петрашэвіча 2 верасня 1968 года яна нават прыгадала прыпеўкі, якія спявалі ў вёсцы Новы Двор Сакольскага павета. Вось некалькі з іх:

*Я на ганачку стаю,*
*Слёзкі коцяцца.*
*Мяне замуж аддаюць,*
*А мне хочацца.*
***
*Ой пайду я на гару,*
*На жоўты пясочак —*
*Кавалера прымaну*
*На сыры кусочак!*
***
*Танцуй, танцуй, абы змог,*
*Не шкадуй маіх ты ног —*
*Мае ножкі сталёвыя,*
*Да таночку гатовыя.*

У пісьме да Аляксея Пяткевіча ад 16 студзеня 1972 года Зоська Верас зноў прыгадвае Сакольшчыну і сваіх родных людзей: „Пасля смерці бацькі я і маці вярнуліся на Бацькаўшчыну. Адзін год — 1908 — пражылі ў Сакольшчыне, у фальварку матчынага бацькі, а ў 1909 годзе я паступіла адразу ў 6-ю клясу гімназіі ў Гродне”. А Вячку Целешу 14 кастрычніка 1980 года адказвае на яго пытанне. А пытаўся ў яе Целеш: ці была яна дзе, акрамя Гродна? „Толькі ў Лідзе, і то коратка — праездам”, — адказвае Зоська Верас. А далей яна ўздыхае, але гэты ўздых настальгічны, самотны, далёкі і нават радасны: „А ў Сакольшчыне ведаю мястэчкі: Сідру, Сухаволю, Дуброву, Саколку... і шмат вёсак. Усё гэта ў дзяцінстве і ранняй маладосці...”.

Зоська Верас пры жыцці актыўна сачыла за ўсімі беларускімі справамі, дзе б яны не адбываліся. Яна шмат чытала, ёй дасылалі кнігі беларусы з усіх куткоў свету. Кнігі яна чытала вельмі ўважліва. І калі там знаходзіла недакладнасці, вельмі перажывала, пісала пра гэта ў сваіх лістах, распавядала сябрам. У 1978 годзе яна ў кнізе „Стану песняй” Лідзіі Арабей прачытала пра скамарохаў. У пісьме да Адама Мальдзіса напісала: „Паводле мяне, на Беларусі ніколі скамарохаў не было. Батлейку насілі батлейшчыкі. Я ў Сакольшчыне запісала словы батлейкі, як яшчэ была ў гімназіі. А ў Менску мы адшукалі на правінцыі старога батлейшчыка, прывезлі ў Менск (зразумела — з батлейкай) і на Захараўскай, 24 у „Беларускай кнігарні” цэлы тыдзень ладзілі яго выступленні”.

Незадаволена Зоська Верас была і артыкулам Аляксандры Бергман пра Сымона Рак-Міхайлоўскага, які быў апублікаваны ў „Беларускім календары” за 1980 год. Яна піша Аляксею Пяткевічу, што „нейкім цудам Смолічы зрабіліся Лёсікамі! Апошнія ніколі ў Гродне не былі”. Крытыкуе Зоська Верас і непраўдзівыя звесткі пра Антона Луцкевіча. Яна пытаецца ў Пяткевіча: „Чаму ж А. Бергман маніць?”...

Беларуская Беласточчына ў пісьмах Людвікі Антонаўны Сівіцкай вельмі розная. Але дзякуючы гэтым лістам, мы сёння шмат можам даведацца цікавага і новага пра таленавітых людзей беластоцка-беларускай зямлі, пра тыя падзеі, якія адбыліся на Беласточчыне ў першай палове XX стагоддзя.


Вакзал станцыі Нараўка, верасень 1941 г.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ

# Мінулае Плянты

**Плянта — вёска з ІІ паловы ХІХ стагоддзя. У гэтай ваколіцы распланавалі фальварак, які належаў да панскага двара ў Гарадзіску. Ад плана і ўзнікла назва паселішча.**

У Плянце была цагельня, шклозавод, тартак і паравы млын. У паравы млын мой бацька вазіў малоць збожжа на муку, забіраючы з сабою і мяне.

У 1906 годзе была завершана пабудова чыгункі з Седльцаў у Ваўкавыск, якая пралягла цераз Плянту. Чыгуначная станцыя атрымала назву Нараўка. Вакзальны двухпавярховы будынак быў з цэглы. У ім былі пачакальня, каса, пакой дзяжурнага руху і начальніка станцыі, склад на пасылкі і багаж. Быў яшчэ буфет і пакой для мацярэй з дзяцьмі.

На паверсе былі кватэры для начальніка і дзяжурнага. Стрэлачнікі наймалі прыватныя кватэры. Побач пераезду цераз чыгунку стаяў домік пуцявога абходчыка.

Да 1939 года на вялікай плошчы побач станцыі быў склад дошак і іншых будматэрыялаў. Быў таксама пляц для фурманак.

Побач вакзальнага будынка стаяла воданапорная вежа. У ёй былі два вадаўмяшчальнікі па некалькі тысяч літраў кожны. З іх машыністы бралі ваду ў тэндэры паравозаў.

У час Другой сусветнай вайны немцы пабудавалі ў Плянце вялікі тартак на чатыры піларамы, а побач — домікі для майстроў. Драўніну прывозілі з розных бакоў вузкакалейкай і самаходамі.

У 1944 годзе акупанты адступалі. Яны, адыходзячы, руйнавалі і палілі ўсе важныя аб'екты. Разбурылі яны вакзальны будынак, вадакачку, масты. Клалі міны пад рэйкі і ўзрывалі іх.

У 1939-1944 гадах у Плянце пражывала шэсцьдзесят сем'яў, у якіх было 118 дарослых і 179 дзяцей. Былі гэта сем'і Барэчкаў, Паўлючукоў, Казлоў, Лапінскіх, Зданоўскіх, Грыцукоў, Храбалаў, Федарукоў, Шарэйкаў, Анішчукоў, Жодзеўскіх і Катоў. На прымусовую працу ў Германію былі вывезены пятнаццаць чалавек, а вярнуліся адтуль адзінаццаць. У вайну загінула дваццацярых жыхароў Плянты.

Пасля вайны ў Плянце паставілі барак, які меў 42 метры даўжыні і 12 метраў шырыні. Былі ў ім пачакальня для пасажыраў, буфет, святліца (займала яна плошчу 60 квадратных метраў), працоўныя пакоі дзяжурнага руху і касіра, які прадаваў білеты.

У святліцы дзейнічаў моладзевы вакальна-музычны калектыў. Займаліся ў ім дзяўчаты і юнакі з Плянты, Сушчага Барка, Міклашэва, Нараўкі і Новага Ляўкова. Музычным кіраўніком калектыву быў Аляксандр Маеўскі. У калектыве спявалі Данута Грыка (яна зараз спявае ў беластоцкім беларускім хоры), Вольга Зданоўская (яна зараз старшыня Таварыства прыяцеляў Нараўчанскай зямлі), Галіна Сухадола, Аляксандр Кульбацкі, Валянціна Барэчка, Францішка Храбол, Яўген Клімюк, Уладзімір Паўлючук (ён іграў на акардэоне) і іншыя. Плянтаўскія артысты выступалі на розных культурна-забаўляльных мерапрыемствах у Гайнаўскім павеце.

У святліцы ладзілі рознага роду курсы, між іншым, сельскагаспадарчых ведаў і на вадзіцельскія правы. Тут збіраліся жанчыны ў рамках Гуртка вясковых гаспадынь, яны таксама арганізавалі шматлікія курсы. У Плянту прыязджала кінаперасоўка. У святліцы адбываліся сустрэчы з цікавымі людзьмі.

У Плянце адзначалі гадавіну Кастрычніцкай рэвалюцыі. Я тады настаўнічаў у Пачатковай школе ў Старым Ляўкове і на мерапрыемства прывёў удзельніка тае падзеі Аляксандра Грыца са Старога Ляўкова, дзе ён шмат гадоў кіраваў царкоўным хорам. Ён быў таленавітым расказчыкам. Пасля афіцыйнай часткі на сцэне выступіў мясцовы вакальна-музычны калектыў. Людзей было! Не ўсе памесціліся ў зале і шмат хто стаяў на калідоры.

У летнюю пару ў ляску за станцыяй адбываліся танцавальныя вечарыны. У Плянце тады пасялілася цыганская сям'я і да танцаў падыгрываў малады цыган. Усе яго хвалілі за цудоўную музыку, а ён іграў усе модныя тады мелодыі. А моладзь была ахвотная танцаваць на свежым паветры ў засені соснаў, бяроз і клёнаў. Дзейнасцю святліцы кіраваў Уладзімір Клімюк, наш ранейшы карэспандэнт. Дапамагалі яму Валянціна Сухадола і Грыша Зданоўскі.

Зараз цераз Плянту не ездзяць пасажырскія паязды. 21 лістапада 2012 года знеслі барак. Зараз толькі вецер гуляе па перонах і сумна шуміць у галінах старых дрэў.

Пра мінулае Плянты расказалі мне Уладзімір Клімюк, Пётр Новік, Валянціна Самойлік і Рыгор Несцярук.



Беларускі Гістарычны Агляд
Навуковы часопіс - Інтэрнэт-версія
ISSN 1392-902X
Пра часопіс | Правілы публікацыі | Кнігі для рэцэнзавання | Бібліятэка БГА | Праекты | BHR in English | Кантакты | Канферэнцыі і гранты | Навіны БГА |
Новы нумар
Тэмы часопіса
ХХ стагоддзе
Інтэрв'ю
Археалогія
Архівалі
Беларуская Народная Рэспубліка
Беларусы ў эміграцыі
Беларусь у сусветных войнах
Новае даследаванне Тымаці Снайдэра выйшла ў кніжнай серыі "Бібліятэка БГА"
23 Сакавіка 2013 г.
Тымаці Снайдэр. Крывавыя землі. Еўропа паміж Гітлерам і Сталіным / пер. з англійскай мовы С. Петрыкевіча; навук. рэд. Г. Сагановіч і У. Капатюў. — Мінск: Медысонт, 2013. – 640 с.
Тымаці Снайдэр
Крывавыя землі
Навіны і анонсы:
26/03/2013 - 3-я Міжнародная летняя школа беларусістыкі (7.07-4.08.2013)
26/03/2013 - Regional Scholar Travel Grant program
22/03/2013 - The Summer Research Laboratory, University of Illinois, June 10 – August 2 , 2013
Усе навіны

Нягледзячы на грэблівае стаўленне цяперашніх беларускіх улад да беларускай мовы і нацыястваральных гістарычных падзей (кшталту, звязаных з БНР), інтарэс да беларускай гісторыі, у большай ступені старадаўняй архітэктуры, у яе прысутнічае. Гэта абумоўлена ў першую чаргу эканамічным чыннікам — аднаўленыя замкі і палацы могуць прынесці валюту, якую прывязуць з сабой замежныя турысты. Менавіта таму апошнім часам набылі гістарычна-турыстычнае гучанне захаваныя і аднаўленыя муры Мірскага і Нясвіжскага замкаў, будынкаў у Полацку, Мінску, Оршы і многіх іншых беларускіх гарадах і мястэчках. Нават небеларускія па духу лукашэнкаўскія начальнікі вымушаны прызнаць, што адрознасцю ад іншых краін і прыцягальнасцю Беларусі можа быць яе гісторыя, на якой можна і капейчыну зарабіць, і духоўныя патрэбы асаблівa „свядомых" задаволіць, каб тыя не моцна абвінавачвалі іх у забіцці гістарычнай спадчыны.

Што ж тычыцца крыніц, адкуль не толькі нацыянальна свядомы беларус можа пачарпнуць веды аб мінулым свайго народа, то аднымі з іх з'яўляюцца гістарычныя часопісы. У Беларусі іх не надта многа, а значыць гэтая ніша з большага не запоўненая.

Асноўным чыннікам выбару для азнаямлення са зместам часопісных гістарычных артыкулаў, мяркуецца, можа паслужыць беларусаарыентаванасць вывучэння гісторыі тым ці іншым аўтарам. Падаецца, што артыкулы ў часопісе „Беларускі гістарычны агляд" (БГА) якраз адпавядаюць такому патрабаванню.

Сайт часопіса, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **www.belhistory.eu**, з'яўляецца класічнай праявай вэб-старонкі навуковага выдання. Тут практычна няма аніякіх аздабленняў, графічныя выявы прадстаўляюць сабой толькі вокладкі разнастайных кніжак і брашур. Праўда, злева побач з назвай сайта месціцца старадаўняя „Пагоня" як сімвал беларусацэнтрычнасці сайта.

«„Беларускі гістарычны агляд" заснаваны ў 1994 г. як незалежны навуковы перыёдык, прысвечаны шырока зразуметай гісторыі Беларусі і актуальнаму стану беларускай гістарыяграфіі. З 2005 г. выдаецца пры Еўрапейскім гуманітарным універсітэце (Вільня). Выходзячы два разы на год, часопіс змяшчае артыкулы, рэцэнзіі і агляды, архіўныя матэрыялы ды інфармацыйныя заметкі па беларускай і ўсходнееўрапейскай гісторыі без храналагічных абмежаванняў», — распавядаецца на старонцы „Пра часопіс". Там жа падаецца пералік сяброў рэдакцыйнай рады і рэдакцыі выдання. Адметна, што ў складзе рады навукоўцы самых розных краін Еўропы.

Некаторыя з рубрык, выйсці на якія пазначаны ўверсе выяўлення, наўрад ці будуць цікавыя звычайнаму карыстальніку інтэрнэту, бо там распавядаецца аб правілах публікацыі артыкулаў у часопісе, пра кнігі па гісторыі, што прапануюцца для рэцэнзавання, БГА па-англійску.

Што ж тычыцца астатніх рубрык, то, пэўна, цікава будзе пазнаёміцца з „Бібліятэкай БГА", абвесткамі пра канферэнцыі і гранты, навінамі часопіса, дзе распавядаецца аб выданнях, якія бачаць свет, дзякуючы намаганням сяброў рэдакцыі.

Бадай, найцікавейшай часткай сайта можна назваць яго левы бок. Там ідзе пералік тэм, якія ўзнімаліся на старонках часопіса, і кожны, што мае хоць які-кольвечы інтарэс у гісторыі, зможа паглыбіць свае веды па пытанню, якое цікавіць.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

Дата з календара Дата з календара Дата з календара Дата з календара Дата з календара



„Загубленае жыццё"

# 110 гадоў з дня нараджэння Платона Галавача

Беларускі пісьменнік Платон Галавач нарадзіўся 5 красавіка паводле старога стылю (18 паводле новага) 1903 г. у вёсцы Пабокавічы на Бабруйшчыне. Паходзіў ён з беднай сялянскай сям'і. Рана застаўся без маці, а асірацеўшы, наймаўся пасвіць кароў. Падросшы, ён звязаўся з камсамолам, вучыўся ў Мінску ў партыйнай школе, адначасна быў інструктарам Барысаўскага павятовага камітэта камсамола. А калі скончыў камуністычны ўніверсітэт на стала перабраўся ў Мінск, дзе працаваў першым сакратаром ЦК ЛКСМБ і рэдактарам газеты „Чырвоная змена". Галавач быў адным з кіраўнікоў літаратурных арганізацый „Маладняк", БелАПП. У розны час рэдагаваў часопісы „Маладняк", „Полымя". З самага пачатку сваёй літаратурнай дзейнасці Галавач змагаўся за чысціню роднае мовы, за яе дакладнасць і выразнасць.

Партыйную кар'еру, літаратурную творчасць і жыццё пісьменніка абарваў сталінскі генацыд. 11 жніўня 1937 г. Галавач быў арыштаваны. У часператрусу энкавэдэшнікі канфіскавалі 67 сшыткаў рукапісаў (магчыма, сярод іх быў і раман „Ён").

У турме НКВД лёс звёў Галавача з яшчэ адным рэпрэсаваным пісьменнікам Станіславам Шушкевічам, які пазней успамінаў: „Платона Галавача і Васіля Каваля я бачыў апошні раз 3 кастрычніка 1937 г. Іх прывялі сведчыць супраць мяне. Скатаваны і знясілены Платон Раманавіч доўга маўчаў... Нарэшце загаварыў: „За мной няма ніякай віны, таксама, як і за кожным з нас". Сказаў і заплакаў...". Перад судом Галавач пакінуў у камеры запіску: „Таварышы, даруйце, калі чым вінаваты перад вамі. Гісторыя яшчэ скажа праўду пра нас. Платон".

28 кастрычніка 1937 г. адбыўся „суд", які доўжыўся 15 хвілін. Змучаны Галавач прызнаў сябе вінаватым. Тройкай НКУС асуджаны як „арганізатар тэрарыстычнай групоўкі" і за „правядзенне нямецка-фашысцкай дзейнасці" да вышэйшае меры пакарання з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны праз некалькі гадзін пасля прысуду. Сям'я пра гэта нічога не ведала, ёй толькі праз сем гадоў было абвешчана, што Галавач памёр 25 снежня 1944 г. у лагеры ад паралічу сэрца. Рэабілітаваны 25 ліпеня 1956 г. Жонка пісьменніка Ніка Вечар была таксама арыштаваная ў лістападзе 1937 г., пазней засуджаная да 8 гадоў савецкага канцлагера, была знявoленая ў Казахстане.

Публікавацца Платон Галавач пачаў у 1921 г. Сімвалічна, што першае апавяданне называлася „Загубленае жыццё". У 1927 г. выйшла кніга апавяданняў „Дробязі жыцця". Тэматыка шматлікіх аповесцей, апавяданняў, нарысаў звязана з грамадзянскай вайной і жыццём вёскі. Яго творы карысталіся поспехам, перакладаліся на расейскую, польскую, украінскую, чэшскую, ідыш і іншыя мовы. Многія яго творы засталіся няскончанымі, у тым ліку кніга пра паўстанне 1863 г. і асобу Кастуся Каліноўскага.

Імем Галавача названы вуліца і завулак у Бабруйску. У 1968 г. на будынку Гарбацэвіцкай школы Бабруйскага раёна, дзе вучыўся Галавач, адкрытая мемарыяльная дошка.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Беларускія калектывы ў Еўрапарламенце

Беларускія калектывы з Гайнаўскага павета наведалі Брусель. Па запрашэнні еўрадэпутата Ярослава Каліноўскага ў сталіцу Еўрапейскага саюза паехалі „Жаваранкі" з Махнатага, „Чыжавяне" з Чыжоў і „Нараўчанкі" з Нараўкі. Спевакоў суправаджалі запрошаныя прадстаўнікі Павятовага праўлення ПСЛ у Гайнаўцы.

Паездка працягвалася з 17 па 21 сакавіка 2013 г. Многія ўдзельнікі ўпершыню паехалі ў так далёкую, замежную экскурсію. Мелі яны магчымасць зблізку паглядзець на працу ў Еўрапейскім парламенце, а таксама прадэманстраваць багацце ўсходняй культуры. Беларускія песні пад акампанемент акардэона, арыгінальныя касцюмы, рэгіянальная кухня выклікалі вялікую цікавасць не толькі ў іншых наведвальнікаў, але і сярод заўсёднікаў Еўрапейскага парламента з іншых краін. За тыя некалькі гадзін наша малая Айчына стала сталіцай Еўропы. Дзякуючы нашым калектывам, аматарам культуры, чыё сэрца пастаянна б'е з любоўю да свайго рэгіёна, да сённяшняга дня жывымі застаюцца традыцыі нашых продкаў.

Паездка ў Брусель гэта не проста візіт у парламент. Гайнаўяне наведалі горад, пачынаючы з самага яго сэрца — плошчы Гран-Плас (еўрапейская рынку), на якой захапляліся Каралеўскім палацам і гатычнай архітэктурай Ратушы. Сімвал горада Манекен Піс, інакш фантан або статуя ў выглядзе хлопчыка, які пісяе — гэта яшчэ адзін пункт паходу па горадзе. Іншыя жамчужыны: Атоміум — помнік архітэктуры Брусэля, размешчаны ў раёне Лакен, Кітайскі павільён і Японская вежа або Парк 50-годдзя з Трыумфальнай аркай. Гайнаўяне наведалі таксама Каралеўскі музей арміі, дзе агледзелі выставу артылерыі ўсіх ваюючых у час Першай сусветнай вайны бакоў.

Паездка ў Брусель — хоць і кароткая — для еўраэкскурсантаў аказалася незабыўным досведам. Дапамагла яна адкрыць для сябе ўнікальнасць горада па смаку шакаладу, паказала яго разнастайнасць, талерантнасць і адкрытасць на розныя культуры. Таксама на культуру, якая для многіх жыхароў Гайнаўшчыны з'яўляецца не толькі рэхам мінулага, але і крыніцай тоеснасці.

**Іаланта МАЦЮКА**

## З Гайнаўкі ў Брусель

Вельмі цікавае падарожжа адбылося з 17 па 21 сакавіка з Гайнаўшчыны ў Брусель — сталіцу Еўрасаюза.

Гэтую аўтобусную экскурсію наладзілі самаўрадаўцы Гайнаўскага павета па запрашэнні еўрапасла Ярослава Каліноўскага. Самаўрадаўцы паехалі разам з членамі песенных калектываў з Махнатага, Нараўкі і Чыжоў, якія спевамі весялілі падарожнікаў.

З Гайнаўкі ў Бельгію далёкая дарога — трэба цэлыя суткі хутка ехаць. Заходняя Еўропа прывітала гайнавян цёплым веснавым паветрам. У Бельгіі нідзе не было снегу, красаваліся кветкі.

Удзельнікі экскурсіі на чале з войтам Гайнаўскай гміны Вольгай Рыгаровіч наведалі Еўрапарламент і спатканіся з Ярославам Каліноўскім, які сардэчна іх прыняў. Адбылася цёплая бяседа, у час якой нашы спевакі спявалі беларускія і польскія песні.

На наступны дзень экскурсанты знаёміліся з Бельгіяй і яе сталіцай. Не абышлося без непрыемных інцыдэнтаў. У брусельскім супермаркеце адной пажылой жанчыне тамашні злодзей украў партфель з грашыма. Іншая хвараўітая падарожніца млела ў аўтобусе па дарозе назад. Але большасць экскурсантаў была задаволена паездкай.

„Нараўчанкі" ў Брусэлі

Гайнаўскія самаўрадаўцы запрасілі Ярослава Каліноўскага наведаць Гайнаўшчыну ў маі гэтага года.

**Мікалай ВАРАНЕЦКІ**

## Адгаданка

Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — рэфлексію.

1. даўгахвосты цэнтральнаамерыканскі папугай = 32 _ 37 _ 40 _;
2. кіраўнічая частка ўстановы = 30 _ 44 _ 31 _ 29 _;
3. светлая пара сутак = 34 _ 35 _ 19 _ 9 _ 27 _;
4. левы бок бухгалтарскага рахунку = 41 _ 2 _ 5 _ 4 _ 1 _;
5. снежная пара года = 20 _ 17 _ 22 _ 21 _;
6. тэатр для дэманстрацыі фільмаў = 14 _ 25 _ 24 _ 15 _;
7. безгустоўны твор мастацтва = 42 _ 36 _ 45 _;
8. парадак, зладжанасць = 43 _ 46 _ 28 _;
9. папярэднік Сталіна = 3 _ 11 _ 12 _ 13 _ 10 _;
10. жывы арганізм у яго знешняй форме = 26 _ 23 _ 16 _ 6 _.
11. пасудзіна для заваркі чаю = 7 _ 8 _ 33 _ 18 _ 39 _ 38 _

(ш)

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| | | | | | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| | | | | | | | | | 18 | 19 |
| | | | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| | | | | | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 |
| | | | | | 34 | 35 | 36 | 37 | 38 | 39 |
| | | | | | | | | | 40 | 41 |
| | | | | | | 42 | 43 | 44 | 45 | 46 |

**Адказ на адгаданку з 10 нумара**

Певень, лейцы, сеча, алень, Дастаеўскі, цар, габардзін, Парыж, цесьць.

Рашэнне: **Жыць весела ды есці нечага**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7⁰⁰ – 18⁰⁰. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

## 14.04 — 20.04

**(22.03. — 20.04.)** З 14.04. тваё жыццё набярэ тэмпу. Не будзеш пераймацца думкамі іншых на тваю тэму. 16-20.04. чым вышэй сягнеш, ты больш зможаш дастаць. З 18.04. (да 21.04.) тваю ўвагу можа прыцягнуць хтосьці, хто гучна пазахапляецца тваёй незалежнасцю. 14-15.04. хораша задбаеш пра сваю красу.

**(21.04. — 21.05.)** З 15.04. можаш пачаць ажыццяўляць мары аб жыцці ў пары, а ў «закальцаваных» парах наступіць росквіт пачуццяў. З 19.04. прыбаўка сілы, жыццярадаснасці і энергіі, а калі яшчэ не — бяжы да лекара. 17-21.04. паявяцца нагоды для наладжання новых кантактаў; пастарайся гэта выкарыстаць. У панядзелак не еж вострага і салонага.

**(22.05. — 22.06.)** Большыя выдаткі, дык разваж, што найважнейшае і трымайся планаў. З 18.04. (да 22.04.) будзеш схільны ўдавацца ў празмерныя падрабязнасці; могуць паявіцца нечаканыя прапановы, якія хутчэй увядуць хаос, хаця могуць спачатку здацца прывабліўымі. З 19 (да 23.04.) маеш шанц узмоцніць сваю сувязь: можа пачнеце ладзіць супольныя планы, а калі на кагосьці палюеш, знаёмства набярэ галавакружнага тэмпу. І не ўсе за табою паспеюць.

**(23.06. — 23.07.)** Будзеш карыстацца вялікай папулярнасцю; зачаруеш кожнага! Будзеш адважны і харызматычны, шчыры ў выказваннях; можаш разлічваць на падтрымку іншых. Затое схочацца пакайфаваць на імпрэзах і пачаставаца ласункамі, ад чаго могуць паявіцца фалдачкі, а затым — горшы настрой, дык лепш адмоўся ад саладосцей. Удачы ў пасрэдніцтве і паслугах.

**(24.07. — 23.08.)** Зможаш адчыніць усе дзверы, якія дагэтуль былі закрыты. Маеш шанц вярнуць уплыў на тое, што нядаўна ўцякала табе з-пад кантролю. Дбай аб сэрца, не спяшайся, добра высыпайся. Лепш не ідзі цяпер на пластычную аперацыю. У другой палове месяца хтосьці можа не ўкласціся ў тэрміны, не ідзі з ім, аднак, на нажы, бо больш можаш страціць чым узмацніцца.

**(24.08. — 23.09.)** Не будзеш наракаць на недахоп энергіі. У прафесійных справах парайся ў кагосьці даверанага, паколькі ў тваіх ладах не хапае табе адлегласці. Маеш цяпер вялікія магчымасці і можаш здабыць новых прыхільнікаў. Здасца табе, што фінансавыя праблемы ўжо за табою, ды з 19 (да 23.04.) твой аптымізм можа паказацца дачасным. 14-18.04. варта ізаляваца ад неспрыяючых табе асоб.

**(24.09. — 23.10.)** 17-21.04. — час спрыяльны для натуральных метадаў лячэння. Варта правесці ачыстку арганізма. З 14.04. з аптымізмам глянеш у сваю прафесійную будучыню. Лягчэй будзе табе дагаварыцца з супрацоўнікамі. Не ўпусці нагод! Не бойся за грошы, выкарыстай усе нагоды і папрацуй — будзе іх прыбываць у неспадзяваным тэмпе.

**(24.10. — 22.11.)** Можа аказацца, што досціпы добрага калегі хаваюць у сабе штосьці большае, чым недахоп пачуцця гумару. А яго бесталковыя заўвагі — няўдалы шлюбны танец. Не дазваляй эмоцыям кіраваць табой у прафесіі. З 19 (да 23.04.) можа табе здацца, што справы ідуць у кепскім напрамку; можа, зашмат хочаш? У панядзелак не пазычай грошай. У сераду будзеш працаваць на некалькіх франтах.

**(23.11. — 22.12.)** Цяпер ты не маеш ахвоты на ніякія абавязацельствы, ставіш на першым месцы сваю свабоду. Таксама ў пачуццях адазвецца ў табе бунтар. Усё ж такі не адмовішся нікому, хто папросіць у цябе дапамогі. У кар'еры не трась халаднакроўя. Зоркі асцерагаюць: спешка і арганізацыйная мешаніна могуць прымусіць цябе да таго, каб ты браўся за тое, што табе не належыцца. Адкрыйся на новыя магчымасці!

**(23.12. — 20.01.)** Да 15.04. хтосьці можа абвінаваціць цябе ў эгаізме. Твае творчыя ўмеласці памогуць табе знайсці новыя ідэі і напрамкі дзейнасці. З 19 (да 23.04.) слухай блізкіх і інтуіцыі. Хтосьці блізкі табе падкажа, як някепска зарабіць. Калі паявяцца нейкія фінансавыя праблемы, мінеш іх без цяжкасці. Добрая інтуіцыя паможа і пры падпісванні дамоў. Казярогі з 1-3.01. могуць цяпер натрапіць на сапраўднае залатое дно.

**Вадалей (21.01. — 19.02.)** 14-15.04. можаш наладзіць цікавае знаёмства, добра дагаворышся з іншымі; не думай кепска пра будучыню. Маеш шанц здабыць свабоду і пазбавіцца ад таго, што цябе путае. З 18 (да 22.04.) мноства задум, хуткае дзеянне, ажыўленыя стасункі; адным простым рашэннем маеш шанц шмат змяніць.

**Рыбы (20.02. — 21.03.)** 17-21.04. будзеш у знакамітай форме. Маеш шанцы прыцягваць да сябе людзей, будзеш добры і сардэчны. Рашай галоўную мэту, пабочныя могуць пачакаць. Калі б пагрошылася сітуацыя ў фінансах, не трась галавы, давер інтуіцыі і рабі сваё.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Усё ў парадку, пад кантролем!




Гэта быццам так, як замест прывітання дастаць малатком між вочы. Калі мы спыталі пра настрой музыканта Славаміра, у адказ прагучэлі словы:

— Ляжыць, як з крыжа зняты....

Адказ уразіў сваім дапасаваннем да рэлігійна-рытуальнага календара. Дзіўная прыгода з бацюшкам і невідучасцю здарылася менавіта ў час перадвелікоднага посту, у балотным, хоць з водаправодам і тэлефонамі кутку. Накont балота сёння не будзем заводзіць гамонкі, бо яно гожа падмерзла і ў Н. не звярталі на гэта ўвагі. Звычайна ў месяцы сакавіку, калі прачынаецца з зімовай дрымоты здрадлівая рачулка Блудзілка, яна залівае падвалы, прасочваецца між драўляных панеляў у хаце, напаўняе іржава-мутной вадой ямкі з-пад знесеных клуняў, дамоў, кацубнікаў. Рачулка ўдзіраецца на панадворкі, у паненскія агародчыкі, залівае сады, палеткі заараныя пад агароды. Усё тут кудысьці плыве, разліваецца, віруе без вадавочнага толку і мэты. Тое рухомае балотца мае сваіх фанатаў і абаронцаў сярод творчай эліты Падляшша. Яны неаднойчы праславілі Н. у крылатай паэзіі, старажытных песнях, рыцарскіх легендах. Сюды ўвесну злятаецца з далёкага выраю дзікае птаства, каб сваім тужлівым крыкам напаўняць неба яшчэ большай дэпрэсіяй і меланхоліяй. Вось і сёння, калі мы павярнулі ў заснежанае Н., ад боку лесу пачуўся пранізлівы жураўліны крык.

* * *

У Н. прыехалі мы ратаваць знаёмага гарманіста Славіка — з пакетам загружаным ядой і тэрапеўтычнай літаратурай пра змаганне з алкагалізмам. Паколькі ў мясціне ўсе пра ўсіх усё ведалі, ды нават цікавіліся жыццём суседзяў больш як сваім, мы спачатку зайшлі ў бар «Амазонка». Ад парога ўдарыў ядавіты пах капусты. Сама залка здалася сяк-так дагледжанай, яе прыаздаблівалі аленевыя рогі і афіша, якая заклікала на танцы пад музыку дыска-пола. Плакат быў павешаны за адзін рог і чамусьці напамінаў мёртвую варону, прышпіленую за нагу да басака. Гэты паганскі «штандар», які меў за задачу адганяць ад сямейкі смерць, ставілі ля сваіх хатак нашы аднапляменцы яшчэ напрыканцы мінулага стагоддзя. Сярод сціплай кампаніі ў бары мы не ўбачылі музыкі. Тут менавіта паінфармавалі нас пра яго крыжапакутны настрой.

У Н. лепш не пытаць пра навіны — першай і апошняй тэмай тут мярліны, паніхіды, стыпы. Таму мы гжэчна развіталіся і рушылі да выхаду...

«А ў нас сёння бацюшка хадзіў» — дагнала ўжо ў дзвярах нечаканая пазітыўная навіна. У паведамленні адчувалася нейкая фатальная загвоздка, ад чаго прыставалі ногі і адмаўляліся несці ў абраным напрамку. Мы, зразумела, вярнуліся да крыніц інфармацыі, значыць, да аўтахтонаў Роміка і Васі. Прыселі за расхістаным столікам без абруса, на якім валяліся два хвасты ад селядцоў і скібка хлеба.

«Бо ў нас пост, няма чаго добрага паесці», — патлумачылі сціплае, затое сугучнае традыцыі меню.

* * *

Праз момант мы ўявілі як бацюшка Расціслаў кропіць свянцонай вадой апантанага згубнай страсцю музыканта Славаміра. Як прамаўляе да яго лагодным словам. Каб апамятаўся. І каб паверыў у адмену лёсу. А тут за расхістаным столікам заяўляюць такое: «Ніхто нікога не крапіў. Усё адбылося як трэба, элегантна і пад кантролем».

Толькі цяпер нам прыгадаўся задаволены чалавек у чорным, з якім мы мінуліся ў дарозе. Ён, як добры знаёмы, памахаў рукой. Не трэба быць вялікім псіхолагам, каб зразумець, што мінуў нас акрылены поспехам чалавек. Каб штосьці зразумець з гэтай гісторыі, мы былі вымушаны частаваць нашых расказчыкаў півам.

«А на закуску вазьміце смажаныя круглячкі з цыбулі, — параілі нам такім тонам, быццам бы рабілі вялікую прыслугу, — каб было з постам».

Па сённяшні дзень мы не ведаем як успрымаць пачутае. Дзень раней, у адзінаццаць вечара, сітуацыя ў Н. напаміналa патанаючы карабель, без капітана. Карацей кажучы, прадстаўнікі мужчынскага полу, як адзін муж, у тым ліку дзед Сашка, дзевяностатрохгадовы інвалід на кастылях, плакалі, танчылі і спявалі. Грэшны запой, які тут называюць *быдлаваннем*, справакавала 83-гадовая Шурка С. Удава нарыхтавала на першы тыдзень вялікага посту парнік брагі, да якой як мухі да мёду зляцеліся алкашы з Н. і аддаленых хутароў. На разбэшчаны панадворак патрапіў і наш прыяцель. Ён нібыта пайшоў іх супакоіць — каб не буянілі і не грашылі. Славамір, як цвярозы алкаголік, больш за ўсіх імкнуўся наводзіць парадкі. Яго місія скончылася татальнай паразай, карацей, наш гарманіст сам пачаў спяваць грэшныя прыпеўкі пад свой расстроены гармонік. Факт, яго мучыла сумленне, перасledавалі маніякальныя думкі пра канчыну. Дзень да нашага прыезду Славамір запрасіў на свае мярліны: «Мяне ўжо няма, я прапаўшы», — заявіў сумным голасам, а пасля горка заплакаў у тэлефонную трубку.

І што тут параіш? Раніцай мы рушылі на ратунак караблю, на якім патанаў наш адчайны таленавіты прыяцель.

А як гэта перажыў бацюшка — і ці не ашалеў ён ад пабачанага?!

* * *

Бацечка Расціслаў ведаў, што ў Н. трэцяя часць дамоў ужо без людзей, пустуе. Цягам апошняга месяца ён пахаваў дваццаць сем пакойнікаў, з-за чаго жывыя і пакойныя канчаткова яму пераблыталіся. Таму зараз, каб дарма не хадзіць па пустых панадворках, ён падумаў заходзіць у хаткі, дзе з коміна ўецца дымок. План спрацаваў, у першай хатцы яго шчодра ўгасцілі.

«А можа кілішачак дзеля здаровечка перахіліце?» — спыталі гаспадары з прымiленнем.

«Я ж на машыне, не магу піць алкаголю».

«То хоць віна скаштуйце».

Айцец Расціслаў у знак адмовы пакруціў галавой і нават усміхнуўся на думку, што яго прыхаджане не лічаць віна алкагольным напіткам. Ён памаліўся, прыняў належны ганарар і ў спешцы пашыбаваў на вёску. Паслуга ў Н. здалася яму ардынарнай і нават нудной справай. За няцэлую гадзіну ён абышоў сядзібы і вярнуўся на першы панадворак, дзе пакінуў машыну. Яго вяртанне, а больш дакладна добры настрой, насцярожыў бабуль, што прыйшлі развітацца і прасіць прабачэння «калі што не так».

А той падзякаваў і з вясёлай усмешкай сеў у машыну і ад'ехаў са свістам...

«Што тут такога вясёлага адбылося?» — заходзілі ў галаву старыя. Баба Соня, не чакаючы, пашыбавала на вёску. Там таксама нічога не разумелі. Магчыма, дапамог той прыдуманы на ляту дымок. Ён жа выратаваў найцаннейшае — гонар. Па сённяшні дзень ніхто не ведае чаму святар абмінуў грэшны панадворак Шуркі С.

«Яна таксама памерла? — спытаў пра ўдаву ў чарговай хаце. — Не памятаю, каб хаваў гэтую вясёлую бабку».

Гаспадары — ім было за семдзесят, каб не змяніць святару, і каб не заставіць яго вярнуцца ў хатку алкашкі, дзе на падлозе ляжалі непрытомныя ўдзельнікі ўсяночнага гульбішча, — прыкінуліся глухімі, і сталі гаварыць пра снег і мароз, які не саступае вясне. А тут жураўлі прыляцелі, бедныя мерзнуць. Во якая бяда!

«А гарманіста Славаміра штосьць невідушчым зрабіла», — апошнюю навіну ў Н. выказалі шэпатам, як тайну. З яго коміна як след узвіваўся дымок і святар без аглядкі зайшоў у двор, адчыніў дзверы ў хату, памаліўся перад абразамі і асвяціў памяшканне. На месцы чакала хросная маці, якая, свядомая скандалу, прыперлася з другой вёскі ратаваць гонар сямейкі.

«І што было далей?» — мы настрылі вушы, пачутае здавалася немагчымым і аднчасова звычайным.

«Ды нішто! Бацюшка нават не глянуў на прыпечак дзе ён валяўся. Сам музыкант падкуліў ногі, шчыльна накрыўся коўдрай і схаваў галаву пад падушку. І галоўнае — не мармытаў і не спяваў праз сон».

Калі пасля мы завіталі ў дом прыяцеля-гарманіста, той сапраўды драмаў на гарачым прыпечку, з галавой накрытай падушкай. Пра візіт бацечкі нічога не ведаў. Ён нават папракнуў нас за непрыстойныя жарты з удзелам духоўнай асобы.

«Ведаеце, гэта агідна такія дурноты прыдумваць у Вялікі пост» . І з гонарам заявіў: «У мяне ўсё ў парадку, пад належным кантролем!».

Эва СЦЕПАНЮК



